# СВАБОДА

№13 31 сакавіка 1995 г.

Кошт 200 рублёў




# Рэгіна Зімніцкая патрабуе ад Лукашэнкі прабачэньня

**28 сакавіка ў Вярхоўным Савеце адбылася прэс-канфэрэнцыя Рэгіны Зімніцкай — аўтара вядомага "Пісьма прэзыдэнту", якое было апублікавана ў "Народнай газеце" і выклікала рэакцыю з боку прэзыдэнта.**

**Як мы паведамлялі ў мінулым нумары, кандыдат пэдагагічных навук 28-гадовая Рэгіна Зімніцкая, якая працуе выкладчыкам у Плешчаніцкай школе алімпійскага рэзэрву, вымушаная была зьехаць зь Беларусі, бо яе сваякі забаяліся, што яна можа пацярпець ад уладаў. Але, як бачым, Рэгіна не пабаялася вярнуцца. Мы палічылі неабходным апублікаваць практычна ўсё, што яна сказала на прэс-канфэрэнцыі, апусьціўшы пытаньні журналістаў.**



Чаму я падпісалася псэўдонімам? На гэта былі дзьве прычыны.

Я вырашыла падпісацца псэўдонімам, бо не хацела ніякага шуму вакол свайго імені, мне непатрэбная слава. Ад славы і грошай я адразу адмаўляюся. Калі б я ведала, што мяне папракнуць, быццам я нечага спалохалася, то адразу падпісалася б сваім імем. Але ж я напісала дакладны адрас, дзе нарадзілася. Я сыходзіла з таго, што я жанчына. Цяпер у палітыцы ўсе дзяруць глотку, а калі крычыць жанчына — гэта страшнае відовішча. Таму свае словы я ўклала ў вусны мужчыны. Палітыка — занятак для мужчын, гэта, відаць, не жаночая справа.

Акрамя таго, мне трэба было паказаць, што ліст пісаў паляк, а не беларус, бо любіць сваю радзіму можна незалежна ад нацыянальнасьці. І калі ты паляк, але пражыў усё жыцьцё на Беларусі, ты павінен любіць гэтую зямлю. Па духу і выхаваньні я беларуска, але паводле пашпарту — полька, і я хацела даказаць, што нацыянальнасьць ня мае значэньня, каб любіць сваю Бацькаўшчыну. Таму я выбрала прозьвішча, якое паказвала б, што пісаў паляк. Я адвольна ўтварыла Вальняровіч ад прозьвішча Бальцэровіч, бо Бальцэровіч — гэта чалавек, які правёў у Польшчы ўсе рэформы. А што да імя, то я скарысталася імем чалавека, які па нацыянальнасьці паляк, але таксама любіць Беларусь і беларускую мову, падзяляе мае погляды. Я ўзяла выдатнае польскае імя Зьдзіслаў.

Рэакцыя прэзыдэнта на гэты ліст яскрава паказала, што яму растлумачыць нельга нічога. Мне здаецца, у гэтым артыкуле ён убачыў толькі тое, што хацеў убачыць, а ня тое, што я хацела яму сказаць.

Што датычыць ягонага слова "фальшыўка", то павінна сказаць, што, назваўшы так мой ліст, ён назваў фальшыўкаю гісторыю майго роду, увесь мой радавод. Гісторыя можа быць дрэннай ці добрай, але яна — гісторыя, і абвергнуць яе нельга. Усе мае аднавяскоўцы ведаюць, што ў лісьце кожная літара — праўда, бо гэта гісторыя маёй сям'і, яна мяне выхавала. Назваць гэта фальшыўкай — абраза мне, маёй памяці і памяці маіх продкаў.

Фраза прэзыдэнта пра даляры, магчыма, і прывяла мяне на прэс-канфэрэнцыю. З Расеі я ехала не даваць прэс-канфэрэнцыю, а прасіць прабачэньня ў Іосіфа Паўлавіча. Вярхоўны Савет яго не абараніў — яго зьнялі. І атрымліваецца, што зьнялі маімі рукамі. Я не прычына, я — зачэпка, але гэта была пляма на маім сумленьні. Я ехала толькі прасіць прабачэньня. Няхай бы ён назваў мяне як заўгодна. Я думала, ён скажа: ну, што — прыехала паглядзець на вынік сваіх артыкулаў? Няхай сабе і так. Але калі мне далі СВАБОДУ і я ўбачыла словы Лукашэнкі пра даляры, то сказала сабе: "Не, назад шляху няма, ён будзе прасіць прабачэньня. За гэтыя даляры".

*(Заканчэньне на стар.2)*


Год заснаваньня 1902
Выходзіць з 1990

Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павал Жук
Выдавец „Газэта СВАБОДА, Ltd."

Наклад 60 000



Адрас рэдакцыі:
220088, Менск, вул. Іванаўская, 56

Тэл./факс 36-24-41


# Чарнобыльскую АЭС наведаў „вялікі атамшчык"

**Апошнімі днямі заходняя прэса шмат піша пра небясьпечнасьць Чарнобыльскай АЭС.**

Заходнія экспэрты лічаць: сёньня станцыя знаходзіцца ў такім стане, што можа здарыцца новая аварыя. Прадстаўнікі краінаў "вялікай сямёркі" настойваюць, каб Украіна зачыніла станцыю. Аднак Кіеў адмаўляецца.

Прэзыдэнт А.Лукашэнка падчас знаходжаньня на ЧАЭС 28 сакавіка заявіў журналістам, што Чарнобыльская станцыя не ўяўляе ніякай пагрозы, а інфармацыя пра яе небясьпечнасьць значна перабольшаная. "И вообще, это нормальное место работы", — сказаў Лукашэнка. Гэтае заключэньне "вялікага атамшчыка" перадалі ў сваіх зводках многія замежныя агенцтвы.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

# Усе на пошукі!

**Зь Міністэрства ўнутраных справаў Беларусі ва ўсе раённыя аддзяленьні міліцыі паступіла сакрэтная шыфроўка.**

Міністэрства загадала ўсім райаддзелам шукаць друкарню, у якой быў надрукаваны нумар газэты СВАБОДА з паэмай "Лука Мудзішчаў — прэзыдэнт", а таксама "установить" асобу аўтара гэтага твора.

**М.Г.**



# Біл Клінтан вітае незалежнасьць Беларусі

**Як паведамлялася, прэзыдэнт ЗША Біл Клінтан накіраваў амэрыканскім беларусам прывітаньне на 77-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР. Спадзяемся, што чытачам СВАБОДЫ будзе цікава пазнаёміцца з поўным тэкстам гэтага пасланьня.**

Белы Дом
Вашынгтон
16 сакавіка 1995 г.

У 77-я ўгодкі абвешчаньня ў 1918 годзе незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі я перадаю шчырае прывітаньне ўсім амэрыканцам беларускага паходжаньня, якія адзначаюць гэтую важную дату. Аднаўленьне ў 1991 годзе незалежнасьці Беларусі, сымбалізуючы неўміручы дух беларускай дэмакратыі, уяўляе сабой удалае зьдзяйсьненьне шматвекавога жаданьня.

Кароткатрывалая рэспубліка 1918 года дае важны прыклад сучаснаму пакаленьню. Нацыя мусіць быць пільнай, аберагаючы і ахоўваючы свой сувэрэнітэт і незалежнасьць. Бо, аднойчы страчаная, гэтая свабода нялёгка аднаўляецца. Падзеі 1918 і 1991 гадоў паказваюць нам, што нават дзесяцігодзьдзі чужога панаваньня ці таталітарнага ладу ня здолелі задушыць у Беларусі імкненьня да дэмакратыі.

Падтрымка сувэрэнітэту, незалежнасьці і тэрытарыяльнай цэласьці Беларусі сталася праўдным прынцыпам у дачыненьнях Амэрыкі з гэтай краінай. У духу гэтых угодкаў адновім жа ўсю нашую адданасьць справе запэўненьня, каб працягвала зырка гарэць полымя беларускай свабоды і дэмакратыі.

Найлепшыя пажаданьні ўсім удала правесьці гэтае сьвяткаваньне.

**Біл КЛІНТАН**



**На здымку: урачысты мітынг каля опэрнага тэатра ў Менску 25 сакавіка.**

# Што думае эліта

**Беларускі Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў правёў апытаньне эліты беларускага грамадзтва. Гэтае дасьледаваньне праводзілася ў рамках праекту "Маніторынг сацыяльна-эканамічных і палітычных зьменаў у Беларусі" пры падтрымцы Беларускага фонду Сораса.**

**Сярод ста рэспандэнтаў былі шэф адміністрацыі прэзыдэнта, міністры, старшыні парляманцкіх камісіяў, лідары асноўных палітычных партыяў, буйныя бізнэсмэны, вядомыя журналісты і рэдактары цэнтральных газэтаў, дзеячы культуры, навукі і мастацтва... Словам, людзі кампэтэнтныя.**

**Апытаньне было праведзенае месяц таму, а 28 сакавіка Інстытут абнародаваў ягоныя вынікі, якія мы публікуем ніжэй.**

| | *Наколькі магчыма, што ў 1995 г. прэзыдэнт будзе адхілены ад улады?* | *Наколькі магчыма, што ў 1995 г. будзе распушчаны парлямант?* |
|---|---|---|
| Няма адказу | 4 | 5 |
| Гэта цалкам магчыма | 21 | 30 |
| Гэта малаверагодна | 63 | 58 |
| Гэта немагчыма | 12 | 7 |

*А вось як ацанілі экспэрты па пяцібальнай шкале дзейнасьць асноўных інстытутаў улады краіны.*

| | *Прэзыдэнт* | *Вярхоўны Савет* | *Кабінэт міністраў* |
|---|---|---|---|
| няма адказу | 5 | 6 | 5 |
| 1 | 31 | 25 | 18 |
| 2 | 29 | 27 | 27 |
| 3 | 28 | 36 | 44 |
| 4 | 7 | 6 | 5 |
| 5 | 0 | 0 | 1 |

*Нават кампэтэнтныя людзі ня страцілі надзеі, што зь цяперашняй эканамічнай сытуацыі ёсьць выйсьце. З кім жа яны зьвязваюць свае надзеі?*

| | |
|---|---|
| з прэзыдэнтам | 21 |
| з урадам | 23 |
| зь Вярхоўным Саветам | 28 |
| зь беларускімі прадпрымальнікамі | 53 |
| з замежным капіталам | 40 |
| з палітычнымі партыямі | 25 |
| з кіраўнікамі дзяржпрадпрыемстваў | 10 |
| з войскам і органамі дзяржбясьпекі | 6 |
| са сродкамі масавай інфармацыі | 27 |
| з судовай сыстэмай | 11 |

*Якую ролю можа адыграць заходняя дапамога ў працэсе рэформаў на Беларусі?*

| | |
|---|---|
| няма адказу | 5 |
| вырашальную | 11 |
| значную | 51 |
| нязначную | 27 |
| ня можа адыграць ніякай ролі | 6 |

*Іншымі словамі, заходняя дапамога, на думку бальшыні экспэртаў, магла б адыграць значную ролю, але надзеі на атрыманьне гэтай дапамогі малыя.*

*А як ацэньвае эліта эканамічнае становішча Беларусі ў параўнаньні з суседзямі? Напрыклад, з*

| | лепш | прыкладна аднолькава | горш |
|---|---|---|---|
| Расеяй | 6 | 17 | 72 |
| Украінай | 23 | 52 | 19 |
| Польшчаю | 5 | 2 | 86 |
| Літвою | 5 | 13 | 73 |
| Латвіяй | 5 | 12 | 74 |

*Ацэнкі, як бачым, несуцяшальныя. На думку экспэртаў, у пошуках трэцяга шляху да сьветлай будучыні нас абаганала толькі Украіна, дый то не на многа.*

*Ці лічыце вы магчымым аднаўленьне СССР у бліжэйшай пэрспэктыве?*

| | |
|---|---|
| няма адказу | 5 |
| так | 6 |
| не | 85 |
| іншы адказ | 4 |

*Якія зьмены патрэбна ўнесьці ў аб'ёмы паўнамоцтваў інстытутаў улады?*

| | варта пашырыць | варта захаваць у такім самым аб'ёме | варта абмежаваць |
|---|---|---|---|
| прэзыдэнта | 12 | 55 | 23 |
| Кабінэта міністраў | 43 | 10 | 34 |
| Вярхоўнага Савету | 25 | 10 | 56 |
| міністэрстваў і ведамстваў | 19 | 39 | 25 |
| мясцовых Саветаў | 63 | 12 | 15 |

## "Прымітыўная хлусьня"

**Так назваў дэпутат Сяргей Антончык публікацыі ў афіцыйнай прэсе (у прыватнасьці, у "Рэспубліцы" і "Советской Белоруссии") пра ягоны суд з прэзыдэнцкім "завхозом" Іванам Ціцянковым.**

Сутнасьць праблемы ў тым, што судзьдзя Ленінскага раённага суда г. Менска Л.Жалнерчык, якая разглядала гэтую справу, адхіліла абсалютна законнае хадайніцтва С.Антончыка, каб суд запатрабаваў афіцыйныя дакументы з розных установаў (Нацыянальнага банку, Кантрольнай палаты, Міністэрства юстыцыі, пракуратуры і г.д.). Дэпутат перадаў суду сьпіс — 19 пунктаў. Нежаданьне далучыць гэтыя дакументы да разгляду справы С.Антончык расцэньвае як наўмыснае імкненьне суда дапамагчы І.Ціцянкову выйсьці сухім з вады. Таму дэпутат заявіў пратэст і патрабуе, каб гэтая справа разглядалася ў Вярхоўным судзе, які, на ягоную думку, у меншай ступені залежыць ад прэзыдэнцкай улады, чым суды ніжэйшых інстанцыяў.

**Іван СІДАР**

## Чым займаецца пракуратура

**У 1994 г. у Беларусі было зарэгістравана 120 тыс. злачынстваў, пракуратура дала 22 тыс. санкцый на арышт, што ўдвая больш, чым пяць гадоў таму.**

Пра гэта паведаміў генэральны пракурор Васіль Шаладонаў на прэс-канфэрэнцыі 28 сакавіка. Ён заявіў, што па тэмпах росту злачыннасьці Беларусь апярэдзіла амаль усе краіны СНД.

Тымчасам лепшыя спэцыялісты пракуратуры, як нам вядома, займаюцца цяпер не барацьбой са злачыннасьцю, а дапамагаюць прэзыдэнту Лукашэнку фабрыкаваць абвінавачаньні супраць прэсы, у прыватнасьці, супраць газэты СВАБОДА. Яскравы прыклад — узбуджэньне крымінальнай справы па факце публікацыі ў СВАБОДЗЕ паэмы Ведзьмака Лысагорскага "Лука Мудзішчаў — прэзыдэнт". В.Шаладонаў, аднак, на прэс-канфэрэнцыі аспрэчваў той факт, што справа была распачатая па ўказаньні прэзыдэнта: ён заявіў, што пракуратура зрабіла гэта па ўласнай ініцыятыве. Сп.Шаладонаў таксама сказаў, што ў панядзелак 3 красавіка ў пракуратуры адбудзецца нарада па гэтай справе. Там будуць разглядацца заключэньні экспэртаў, на падставе якіх будзе прынятае рашэньне, "хто ўсё ж вінаваты — аўтар, рэдактар, газэта..."

Акрамя таго, В.Шаладонаў паведаміў, што пракуратура праводзіць дасьледаваньне вядомага "Пісьма прэзыдэнту", надрукаванага ў "Народнай газэце", і потым дасьць афіцыйнае заключэньне, ці ёсьць у гэтай публікацыі заклікі да насільля і грамадзянскага процістаяньня. Адным словам, у сьледчых цяпер поўна больш важных спраў, чым барацьба са злачыннасьцю.

А на разьвітаньне генэральны пракурор прызнаўся журналістам, што яго вылучаюць кандыдатам у дэпутаты ВС у Добрушскім раёне і што ён зьбіраецца на час выбарчай кампаніі ўзяць адпачынак.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

## МВФ не зьбіраецца фінансаваць агонію беларускай эканомікі

**Урад Беларусі атрымаў ліст ад Міжнароднага валютнага фонду, у якім МВФ паведамляе, што выдзяленьне крэдыту stand-by агульнаю сумаю ў 250 мільёнаў даляраў адкладзенае на нявызначаны час.**

У лісьце таксама выкладзены шэраг прэтэнзіяў наконт невыкананьня Беларусяй узятых раней абавязацельстваў.

Як заявіў дарадца 2-га ўпраўленьня МВФ Анры Лары, місія фонду, якая нядаўна знаходзілася ў Менску, незадаволеная выкананьнем праграмы ўраду. Місія прыяжджала, каб высьветліць, як выконваецца праграма, і потым даць рэкамэндацыі Савету дырэктараў аб мэтазгоднасьці выдзяленьня крэдыту. Крэдыт, паводле словаў сп.Лары, адкладзены па дзьвюх прычынах: урад Беларусі ня здолеў зьнізіць інфляцыю і не праведзеныя структурныя зьмены ў эканоміцы. "Перад тым, як МВФ выдзеліць грошы, мы павінны ўбачыць відавочныя посьпехі і настойлівыя намаганьні беларускага ўраду зьнізіць інфляцыю і зрабіць структурныя пераўтварэньні ў сфэры эканомікі. Прэзыдэнт стварае ўсё больш і больш органаў кантролю. Гэтыя спробы адміністрацыйнага ўмяшальніцтва ў эканоміку ўскладняюць ход рэформаў у краіне", — падкрэсьліў сп.Лары. Прадстаўнік МВФ таксама нагадаў, што Беларусь ужо мае вялікую запазычанасьць па крэдытах, а іх абавязковая трэба будзе вяртаць.

**СІМ**



СІМ

**Афіцыйная прэса чамусьці "забылася" апублікаваць узоры новых сімвалаў, якія прапануе на рэфэрэндум прэзыдэнт Лукашэнка. Паглядзіце, што ён хоча вярнуць. Вар'яцкі дом!**

## Сьвяткаваньне дня Перамогі будзе каштаваць 95 мільярдаў рублёў

**На чарговай урадавай прэс-канфэрэнцыі віцэ-прэм'ер Уладзімер Русакевіч паведаміў аб мерапрыемствах па сьвяткаваньні ў Беларусі дня Перамогі.**

Са слоў сп.Русакевіча, 7 траўня ў менскім Палацы спорту адбудзецца ўрачыстае паседжаньне, на якое запрошана каля 5 тыс. чалавек. 8 траўня на сталічным стадыёне "Дынама" пройдзе вялікае ваенна-спартыўнае сьвята. А 9 траўня ў Менску на пляцы Незалежнасьці адбудзецца парад і шэсьце вэтэранаў да помніка Перамогі. У гонар сьвята каля 300 вэтэранаў атрымаюць ордэн "50 гадоў Перамогі". Да гэтага часу павінна выйсьці таксама хранікальна-дакумэнтальная кніга "Памяць", дзе будуць указаныя месцы пахаваньняў тых, хто загінуў у Вялікую айчынную вайну. Удзельнікі і інваліды вайны, а таксама прыроўненыя да іх атрымаюць да сьвята аднаразовую дыфэрэнцаваную дапамогу ў памеры ад 1 да 8 мінімальных заробкаў. На гэтыя мэты ўрад рэспублікі выдаткаваў 82 мільярды беларускіх рублёў. Сьвяткаваньне дня Перамогі ў цэлым абыдзецца бюджэту ў 95 мільярдаў рублёў. Са словаў сп.Русакевіча, паколькі 9 траўня — аўторак, урад абвясьціць 8 траўня непрацоўным днём.

На пытаньне, пад якой сымболікай будзе праходзіць сьвяткаваньне 50-годзьдзя Перамогі, сп.Русакевіч адказаў: "Адназначна — пад дзяржаўнай".

**СІМ**

# Ахвяры нацызму могуць не дачакацца сваіх дойчэмарак

Нямецкі бок настойвае на паскарэньні выплаты кампэнсацыяў

**Нямецкі бок занепакоены, што грошы, выдзеленыя Беларусі, выкарыстоўваюцца сумнеўным чынам. Маюцца на ўвазе сродкі, якія выдаткоўвае ўрад Нямеччыны на кампэнсацыю ахвярам нацызму — былым вязьням гітлераўскіх канцлягераў, турмаў, гета і г.д.**

**Першыя пералічэньні за два мінулыя гады склалі 140 мільёнаў дойчэмарак. Але ахвярам было выплачана ўсяго 11 млн. 483 тыс. 805 DM. Астатнія мільёны знаходзяцца ў "Прыорбанку". Для арганізацыі выплатаў кампэнсацыі беларускі ўрад сваёй пастановай ад 14 чэрвеня 1993 г. стварыў фонд "Узаемаразуменьне і прымірэньне". Многія аспрэчваюць гэтае рашэньне і разглядаюць фонд як структуру, паралельную міністэрству сацыяльнага забесьпячэньня. Тымчасам у фондзе знайшлі прытулак некалькі адстаўных палкоўнікаў. Кіруюць фондам народны мастак акадэмік Міхаіл Савіцкі і ягоны намесьнік дэпутат Вярхоўнага Савету Генадзь Казлоў. Аднак пры такім, здавалася б, салідным начальстве праца ідзе кепска: да прыкладу, толькі пару тыдняў таму ахвяры нацызму змаглі знайсьці ў прэсе правілы налічэньня кампэнсацыі.**

**Паток скаргаў вымусіў службу кантролю прэзыдэнта праверыць дзейнасьць фонду. Аднак адчувальных зьменаў пасьля праверкі не адбылося. Нямецкі бок лічыць, што неабходна паскорыць выплату кампэнсацыяў, і прапануе дапамогу Міжнароднай службы вышуку і іншых кампэтэнтных арганізацыяў. Але нямецкі ўрад ня мае магчымасьці пракантраляваць, як і каму выдаюцца дойчэмаркі. Яшчэ падчас першапачатковых перамоваў прадстаўнікі СССР выступілі супраць такога кантролю, як і супраць удзелу нямецкіх прадстаўнікоў у фондзе.**

**У сродках масавай інфармацыі Нямеччыны нядаўна зьявілася інтэрвію доктара Бэрлінскага свабоднага ўнівэрсытэту Ё.Шлёца, які доўгі час супрацоўнічае з рознымі ўстановамі ў Менску, у тым ліку зь беларускімі архівамі. Інтэрвію якраз тычыцца дзейнасьці Беларускага рэспубліканскага фонду "Узаемаразуменьне і прымірэньне".**

**— Доктар Шлёц, як Вы лічыце, ці справядліва разьмяркоўваюцца ў Беларусі грошы, выдадзеныя Нямеччынай?**

— Што ў гэтым выпадку азначае справядліва? Справядлівае разьмеркаваньне было б тады, калі б грошы выплочваліся ахвярам зь Нямеччыны напрамую, магчыма, з удзелам беларускага пасярэдніка. Але, калі грошы ў вялікай колькасьці ляжаць у Беларусі, узьнікае пытаньне: як хутка фонд павінен выдаваць нямецкія маркі і што адбываецца з грашыма, пакуль яны ляжаць у банку?

Пасьля таго, як адміністрацыя Лукашэнкі выказала незадаволенасьць дзейнасьцю фонду, на паверхню выплылі некаторыя факты неабгрунтаванай адмовы ахвярам. Грошы былі выплачаныя людзям толькі пасьля ўмяшаньня высокапастаўленых асобаў. Але ж бальшыня заяўцаў ня маюць такіх уплывовых сувязяў.

У мяне склалася ўражаньне, што некаторыя важныя пэрсоны ў Беларусі зацікаўленыя, каб грошы як мага даўжэй знаходзіліся ў банку. Але чакаць няма калі, бо ахвяры — людзі паважнага веку, маюць па 60—80 гадоў. Гэтым пытаньнем, відаць, павінен зацікавіцца пракурор, а магчыма, і палітычнае кіраўніцтва краіны.

Я ня ўпэўнены, што ганаровым старшыням фонду трэба плаціць толькі за тое, што яны "ганаровыя старшыні". У мяне няма зьвестак, колькі атрымліваюць супрацоўнікі фонду, але я ведаю, што за час існаваньня фонд зрабіў вельмі мала выплатаў ахвярам. У архівах і ў Міжнароднай службе вышуку ёсьць неабходныя дадзеныя, і я сумняваюся, што супрацоўнікі сапраўды выкарысталі ўсе крыніцы і магчымасьці, каб знайсьці патрэбную інфармацыю і даць станоўчы адказ заяўцу. У першую чаргу маю на ўвазе тых, у каго няма афіцыйнай падтрымкі і хто жыве ў вёсцы або ў правінцыйным горадзе.

Я лічу, што дзяржаўныя архівы выкарыстоўваюцца не ў поўную меру. Напрыклад, у Нацыянальным архіве ёсьць мільёны фактаў, якія маглі б дапамагчы ахвярам атрымаць адрасаваную ім дапамогу. Я мяркую, што якраз у будынку гэтага архіву і павінен знаходзіцца фонд. Аднак яго разьмясьцілі ў памяшканьні "Прыорбанку", да якога ня вельмі зручна ехаць, бо ён знаходзіцца ня ў цэнтры горада. Дзіўна таксама, што "Прыорбанк" — адзіны банк, дзе фонд мае рахунак. Але ж у гэтага банку зусім няшмат філіяў у сельскай мясцовасьці, што, несумненна, зацягвае выплаты. Роля "Прыорбанку" не зусім ясная, аднак відавочна: час — гэта грошы, і выйгрыш маюць тыя, хто гэтыя грошы трымае.

**— Як Вы ацэньваеце публічнасьць у дзейнасьці фонду?**

— Калі я папрасіў кіраўніцтва фонду пазнаёміць мяне з публікацыямі ў прэсе пра ягоную дзейнасьць, то атрымаў толькі артыкулы са станоўчымі водгукамі. Давялося некалькі разоў зьвяртацца з настойлівымі запытамі, покуль мне перадалі негатыўныя публікацыі, у прыватнасьці, тыя артыкулы, дзе паведамлялася аб парушэньнях, выкрытых прэзыдэнцкай службай кантролю. Мы павінны запытацца ў прэзыдэнта, што прымусіла яго праверыць фонд.

Акрамя таго, я не зусім разумею каапэрацыю паміж дзяржкамітэтам па архівах (яўна палітычная ўстанова) і гэтым фондам. Як высьветлілася, загадчык аддзелу дзяржкамітэту па архівах зьяўляецца яшчэ і пастаянным супрацоўнікам фонду. Гэта недарэчнае і незразумелае супрацоўніцтва. Яно не вядзе да хутчэйшай і лепшай апрацоўкі заяваў. Пытаньні нараджаюць новыя пытаньні, але знаходзіцца вельмі мала адказаў.

**— Ці не зьвязваеце вы гэтыя праблемы з тым, што ў Беларусі фактычна застаецца некранутаю старая сыстэма?**

— Беларусь знаходзіцца ў посткамуністычнай эры. Тут моцна праяўляюцца перажыткі ранейшага, а таксама залежнасьць ад Масквы. Паміж апазыцыяй і ўрадам назіраецца моцная напружанасьць. Посткамуністычная сыстэма захавалася, хоць і адбылася зьмена кіраўніка дзяржавы. Прэзыдэнт Лукашэнка таксама паходзіць з той сыстэмы, хоць у некаторых пытаньнях ён спрабуе адмежавацца ад яе.

У мяне такое ўражаньне, што грошы, якія паступілі зь Нямеччыны ў распараджэньне ўраду Беларусі, да сярэдзіны 1994 г. выкарыстоўваліся ў палітычных мэтах. У той час пісаўся і статут фонду, які таксама трэба праверыць. Варта паставіць цьвёрдую ўмову: далейшыя грашовыя пералічэньні зь Нямеччыны адбудуцца толькі ў тым выпадку, калі будуць высьветленыя ўсе пытаньні. Кампэтэнтныя структуры ў Нямеччыне павінны наладзіць кантакт зь беларускім бокам, па магчымасьці зьмяніць статут фонду і забясьпечыць надзейнасьць яго працы. Прычым у рабоце гэтай арганізацыі павінны ўдзельнічаць прадстаўнікі ня толькі старых посткамуністычных структураў, але і ўсіх слаёў грамадзтва. Прэзыдэнтам фонду павінен быць чалавек, які ніяк не зьвязаны са старой сыстэмай і зможа наладзіць эфэктыўны кантроль.

Будзе вельмі шкада, калі людзі, якія пацярпелі ад Сталіна і Гітлера, ня змогуць атрымаць адрасаваную ім кампэнсацыю і ў выніку зноў стануць ахвярамі з прычыны такой заганнай дзейнасьці фонду. Я лічу, што яго структуры, якія ствараліся ў посткамуністычны час, яшчэ пры ўрадзе Кебіча, абавязкова павінны быць зьмененыя, прычым з удзелам нямецкага боку.

**Лотар ЭБЕРГАРДТ**

## ПАРАЛЕЛІ

**З 26 сакавіка грамадзянам Літвы** дастаткова толькі адной візы для паездак у сем заходнееўрапейскіх краінаў.

Візавыя патрабаваньні спрошчаныя ў адпаведнасьці з пагадненьнем Schangen, згодна зь якім скасоўваецца памежны кантроль паміж краінамі, што падпісалі гэты дакумант, — Францыяй, Бэльгіяй, Люксэмбургам, Нямеччынай, Галяндыяй, Гішпаніяй і Партугаліяй. Літоўскія грамадзяне змогуць езьдзіць у любую зь сямі дзяржаваў, атрымаўшы візу ў амбасадзе або консульстве адной зь іх. Тэрмін знаходжаньня на тэрыторыі гэтых краінаў абмяжоўваецца 90 днямі, аднак прадугледжаны некаторыя выключэньні. Неўзабаве да дамовы плянуюць далучыцца Грэцыя і Італія.

**Пытаньне пра сьвяткаваньне 9 траўня** стала цэнтральным у дыскусіі дэпутатаў латвійскага Сэйму, якая разгарнулася вакол паправак да Закона аб сьвяточных і памятных днях. У цяперашнім законе 9 траўня пазначаны як Дзень памяці ахвяраў Другой сусьветнай вайны. Праект, падрыхтаваны камісіяй па правах чалавека, прадугледжваў дзьве папраўкі. Па-першае, зьмяніць дату на 8 траўня, бо дата 9 траўня — чыста сталінская прыдумка, а па-другое, адзначыць у фармулёўцы афіцыйнага дзяржаўнага памятнага дня яшчэ і саму перамогу над нацызмам. Другая папраўка якраз і выклікала рэзкія пратэсты часткі дэпутацкага корпусу. Сваё нежаданьне адзначаць разгром фашызму яны аргумантавалі тым, што ўласна для Латвіі гэта не было сьвятам, бо прывяло толькі да зьмены адных акупантаў на іншых. На думку дэпутата Сэйма Руты Мар'яш, заклікі да жалобы ў гэты дзень — гэта выклік сьвету. У выніку першага слуханьня паправак Сэйм зьмяніў толькі дату памятнага дня.

**СІМ**

# З нашай краіны хочуць зрабіць танкадром

Палітыкі ўсё часьцей карыстаюцца тэрмінам агульнай мяжы краінаў СНД. Найбольшую любасьць да такой калектыўнай мяжы маюць у Маскве.

Гэта не вынаходніцтва сёньняшніх расейскіх вялікадзяржаўнікаў. Яшчэ цары ды імпэратары ня супраць былі пашырыць межы Расеі на ўсе тэрыторыі, заселеныя славянамі. Бальшавікі ж наагул усе межы, акрамя межаў сваіх валоданьняў, успрымалі як нейкую недарэчнасьць. Агульнасьць межаў СССР і тэрыторыяў, якія ў выніку другой сусьветнай вайны трапілі ў залежнасьць ад савецкай імпэрыі, была адным з пастулятаў сумнавядомай "дактрыны Брэжнева". У 1968г. Леанід Ільіч так і патлумачыў прадстаўнікам ЦК кампартыі Чэхаславакіі: мы паслалі ў вашу краіну войска, каб адчуваць бясьпеку ў нашых агульных межах. Праўда, такі арыгінальны пункт погляду маскіраваўся дымавой заслонаю клопатаў пра "абарону сацыялістычных заваёваў народаў".

Сучасныя маскоўскія палітыкі ня толькі дымзаслону ня ставяць, але нават камуфляжам не карыстаюцца. Яны імкнуцца ўключыць у межы Расеі ўсе краіны СНД, прадстаўнікі якіх што-небудзь выпрошваюць у Маскве — аўтаматы Калашнікава і патроны да іх альбо нафту. У выніку Беларусь ашчасьлівілі агульнай мяжой з Расеяй і Таджыкістанам — краінамі, на тэрыторыі якіх ідзе грамадзянская вайна. Больш за тое, Беларусь уцягваецца ў ваенна-палітычны саюз з Расеяй, якая стварае нешта падобнае на Варшаўскі пакт. Дзяржавы, кіраўнікі якіх упарцяцца і ўхіляюцца ад абдымкаў "старэйшага брата", таксама не абдзеленыя ўвагаю: у выніку розных падзеяў упартыя палітыкі сыходзяць з палітычнай сцэны, а іхныя месцы займаюць больш прыхільныя да Масквы дзеячы. Канчатковым вынікам гэтага працэсу можа стаць інкарпарацыя дзяржаваў СНД у склад Расеі. Дакладней, чарговае "добровольное присоединение".

Ваенны саюз дзьвюх дзяржаваў мае на ўвазе наяўнасьць агульных ваеннапалітычных інтарэсаў. Расея сёньня клапоціцца пра захаваньне сваіх стратэгічных пазыцыяў у сярэдняй Азіі і на Каўказе. Якой, выбачайце, халеры шукаць у тых краёх беларусам — гэтага яшчэ ніхто ня змог растлумачыць. Каб забясьпечыць нашыя камбінаты бавоўнай, відаць, ня варта дэсантаваць Віцебскую дывізыю. Заявы ж прэзыдэнта Лукашэнкі пра пагрозу з боку NATO відавочна заўчасныя — з так званай зонай NATO мяжуем ня мы, а Польшча. Адна з прычын, па якіх Польшча імкнецца да ўступленьня ў NATO, — захады Беларусі да ваеннага саюзу з Расеяй. Сёньняшніх маскоўскіх валадароў прынята лічыць цывілізаванымі, аднак іхная зьнешняя палітыка дае падставы асьцерагацца нават расейскай экспансіі. Калі ж уладу ў Маскве атрымаюць сілы з яшчэ большымі імпэрскімі амбіцыямі, а Беларусь стане падкантрольным Расеі калідорам, можна меркаваць, што ў NATO прымуць усіх, хто таго захоча. Тады можа ўзьнікнуць процістаяньне Расеі і ейных саюзьнікаў з амаль што ўсёй Эўропай і ЗША. Значная доля віны за такое разьвіцьцё падзеяў ляжа на беларускіх палітыкаў і нашае грамадзтва.

Палітычная дзейнасьць цяперашніх беларускіх уладаў скіраваная на ліквідацыю дэкляраванага Беларусяй нэўтралітэту. Аднак нэўтральнасьць дае значныя перавагі ў нашай складанай геапалітычнай сытуацыі. Па-першае, яна пазбаўляе некаторых аргумантаў тых палітыкаў, якія зьяўляюцца прыхільнікамі пашырэньня сфэраў уплыву ваенных блёкаў. Па-другое, калі нават зона NATO дасягне нашых межаў, статус нэўтральнай дзяржавы дазваляе спадзявацца, што гарантамі бясьпекі Беларусі будуць і NATO, і Расея. Незайздросная роля буфэру паміж двума веліканамі-гігантамі ўяўляецца бядой меншай, чым ваеннапалітычны саюз з Расеяй. Небясьпека такога саюзу ня толькі ў тым, што, на думку некаторых палітолягаў, разьвіцьцё падзеяў у Расеі можа пайсьці па югаслаўскім варыянце, але і ў тым, што расейскія ваенныя з прафэсійным меркаваньнем могуць разглядаць Беларусь або як гіганцкае перадполле Маскоўскай вобласьці, або як плянцдарм для скачка на захад. У выпадку збройнага канфлікту на нашай тэрыторыі будзе працаваць уся зьнішчальная сіла сучасных відаў узбраеньняў.

Ва ўсе часы афіцэры генэральных штабоў эўрапейскіх дзяржаваў варажылі над геаграфічнымі мапамі Беларусі. Цары, каралі ды іншыя палітыкі абяцалі сваім падданым бяскроўныя войны і абавязкова на чужой тэрыторыі. Але мудрыя генштабісты ведалі і ведаюць, што палітыкі іншы раз адрываюцца ад рэальнасьці, часта даюць каманду пачынаць падрыхтоўку да вайны пасьля таго, як вайна пачалася. Таму афіцэры наносілі і наносяць на свае мапы як шляхі наступленьня, так і шляхі адыходу. Значная частка генштабісцкіх стрэлаў праціне Беларусь. Зручны шлях з усходу на захад, з захаду на ўсход. Зручна генштабістам, але не заўсёды зручна беларусам — іншым разам камбінацыі на мапах матэрыялізуюцца, і тады на Беларусі гараць гарады і вёскі, зямлю пляжаць войскі розных захопнікаў, гінуць мільёны нашых людзей.

Можна не сумнявацца, што ў сэйфах сёньняшніх генэральных штабоў таксама знойдуцца мапы Беларусі. Генэралаў суседніх дзяржаваў, якія разглядаюць Беларусь як гіганцкі танкадром, можна зразумець, бо яны дбаюць пра бясьпеку менавіта сваёй краіны. Але як зразумець палітыкаў, што называюць сябе беларускімі і не турбуюцца нават пра тое, каб афіцэры беларускага генштабу, для якіх Беларусь не танкадром, а Бацькаўшчына, пралічылі ўсе магчымыя варыянты недапушчэньня на нашую зямлю чужых войскаў. Калі палітыкі не разумеюць, да якіх вынікаў можа прывесьці такая бесклапотнасьць, ім трэба азнаёміцца з нашай гісторыяй, з баявымі статутамі армій суседніх дзяржаваў, урэшце, з табліцамі тактыка-тэхнічных характарыстыкаў сучаснага ўзбраеньня. Мазгоў гэта не дадасьць, але тыя, што ёсьць, магчыма, прачысьцяць.

**Алег АСІПОВІЧ**

